№ 12(135)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Ліпень 2012 г.

## У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ ЗАРОБКІ РАСТУЦЬ ШАЛЁНЫМІ ТЭМПАМІ



Сярэдні заробак у Бялыніцкім раёне наблізіўся да трох мільёнаў рублёў. Абяцаюць, што ў хуткім часе ён стане амаль на 30 % больш.

Як паведамляе інтэрнэт-сайт Бялыніцкага райвыканкама, срэдняя заработная плата па народнай гаспадарцы Бялыніцкага раёна ў маі склалася на ўзроўні 2 988,1 тысяч рублёў. У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года тэмп росту заработнай платы склаў 203,3 %.

Яшчэ больш цікава, атрымалась так, што ў маі сярэдні заробак у гарадскім пасёлку Бялынічы быў значна меншы, чым у вясковай частцы раёна. Ва ўсялякім выпадку, згодна дадзеных ужо абласных статыстыкаў, заработная плата за май у гарадскім пасёлку Бялынічы склала 2 917 779 рублёў. Як кажуць класікі, статыстыкі ведаюць усё, таму можна толькі паспачуваць усім маім знаёмым, якія чамусьці лічаць, што заробкі ў вёсцы значна ніжэй, чым у райцэнтры. Памыляюцца, аднак, так што хутка народ з усёй краіны ламане ў Бялыніцкі раён у вёску грошы зарабляць…

Карацей, з паведамленняў райвыканкамаўскіх чыноўнікаў і статыстыкаў вынікае, што бялынічанам застаецца толькі парадавацца за нашу “моцную квітнеючую Беларусь” і мудрае кіраўніцтва арганізацый і прадпрыемстваў Бялыніцкага раёна, якія забяспечваюць шалёны рост заробкаў у параўнанні з мінулым годам аж на 200 з нечым адсодкаў.

Тым больш, што, па меркаванню нашых райвыканкамаўскіх чыноўнікаў і ім падначаленых статыстыкаў, далей мы будзем “квітнець” усё больш і больш, бо заробкі будуць толькі расці і расці. Аднак у мяне асабіста радавацца чамусьці не вельмі атрымліваецца, бо праваламі ў памяці я пакуль не пакутую, таму добра

*(Заканчэнне на стар. 2)*

## «ПЕЧАТНЫЙ СТАНОК» ОПЯТЬ ВКЛЮЧЕН

Резкий рост рублевой массы отражает меры властей по административному стимулированию роста зарплат.

16 июля Национальный банк опубликовал новую денежно-кредитную и финансовую статистику. Выяснилось, что объем широкой денежной массы в Беларуси на 1 июля вырос до 134 триллионов рублей (почти на 21% с начала года). Ранее планировалось, что за весь 2012 год ШДМ увеличится на 22-24%.

Как отмечает www.interfax.by, резкий прирост наличных денег в обращении и переводных депозитов физлиц в нацвалюте в июне отражает меры властей по административному стимулированию роста зарплат. При этом заметный рост рублевой массы не привел к пропорциональному росту срочных депозитов, но вызвал заметное увеличение срочных вкладов в инвалюте.

При этом активная рублевая денежная масса в июне увеличилась на 13,8%. Для сравнения: в мае её рост составил всего 0,8%.

«В июне включился «печатный станок», — такой вывод на основании официальной статистики сделало агентство. А что делать?.. Ведь руководство страны требует обеспечить к концу года среднюю зарплату в эквиваленте 500 долларов и даже больше.

Напомним, что первая попытка решить эту задачу была предпринята перед президентскими выборами в 2010 году. Цель тогда была достигнута, но спустя несколько месяцев случилась ма-а-аленькая неприятность – без малого трехкратная девальвация национальной валюты.

Судя по всему, это был не последний обвал…

***Салідарнасць, Кирилл Букин***

# У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ ЗАРОБКІ РАСТУЦЬ ШАЛЁНЫМІ ТЭМПАМІ




*(Закарч. Пачатак на стар. 1)*

памятаю, чым абярнулась гонка за 500 далярамі ў 2010 годзе напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Увесь мінулы год "вычухівалі" наступствы смелых эксперыментаў нашых мудрых кіраўнікоў. Зараз сітуацыя цалкам паўтараецца: наперадзе выбары ў "Палатку" і зноў пачаліcь абяцанкі высокіх заробкаў любімаму электарату і расповед пра нечуванае шчасце, якое чакае нас наперадзе.

Я не з'яўляюсь вялікім эканамістам і прадказальнікам, аднак магу адназначна расказаць, чым уся гэтая перадвыбарчая эйфарыя скончыцца: чарговым шалёным ростам коштаў і новым абвалам беларускага рубля. І зноў будуць енчыць нашы адданыя прыхільнікі таго, хто "крыху вышэй за Бога", што іх у чарговы раз падманулі. Ну а вінаватыя будуць ва ўсім, як гэта ў нас заўсёды бывае, праклятыя дэмакраты з "пятай калоны". І гэта нічога, што менавіта яны пастаянна папярэджваюць, што ад накачкі эканомікі пустымі грашыма сітуацыя будзе толькі пагаршацца. Улада ж у нас ніколі не памыляецца, а гэтыя свалачугі з апазіцыі вінаваты ўжо тым, што не даюць нашым мудрым кіраўнікам пабудаваць цалкам квітнеючую краіну па ўзоры Паўночнай Карэі. Ня ўсе гэтыя адшчапенцы яшчэ ў нашых самых лепшых у свеце турмах сядзяць і не ўсе збеглі к сваім гаспадарам на загніваючы Захад, які, у адрозненне ад нашай квітнеючай краіны, вось-вось ляснецца ад крызісу. Праўда, дзеткі і блізкія сваякі нашых адданых патрыётаў-чыноўнікаў і начальнікаў з праваахоўных органаў чамусьці таксама рвуцца да гэтых праклятых буржуінаў на пастаяннае месца жыхарства і там пасля "пакутуюць". Дарэчы, у тым ліку шмат там і сваякоў не апошніх людзей нашага квітнеючага Бялыніцкага раёна. Аднак гэта ўжо іншая тэма і я да яе абавязкова яшчэ вярнуся.

Ну а пакуль прывяду вам, паважаныя чытачы, яшчэ адну цытату з справаздач нашых мудрых магілёўскіх статыстыкаў: "Аб'ём валавага рэгіянальнага прадукта па Магілёўскай вобласці ў студзене-маі 2012 г. склаў у бягучых коштах 13 507,2 млрд. рублёў і павялічыўся ў параўнанні са студзенем-траўнем 2011 г. у супастаўных коштах на 2,2%. Прагнозам на 2012 год у адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 снежня 2011 г. № 1779 прадугледжаны яго рост на 5,1-5,6%".

Як бачым, асабліва бурнага росту, калі не сказаць інакш, эканоміка Магілёўскай вобласці не дэманструе. Нагадаю яшчэ раз, што за пяць месяцаў валавы рэгіянальны прадукт па Магілёўскай вобласці павялічыўся толькі на 2,2 %, і гэта з усімі тымі хітрыкамі, якімі так добра валодаюць нашы чыноўнікі пры складанні справаздачаў. Таксама нагадаю старую ісціну, якую не змаглі пакуль абвергнуць нават самыя передавыя ў свеце праўладныя ідэолагі і эканамісты нашай квітнеючай Беларусі: рост заработнай платы не павінен паперадзжаць рост вытворчасці працы. Інакш, як мы гэта ўжо неаднаразова праходзілі пад кіраўніцтвам нашага васямнаццацігадовага (па стажу) агульнага кіраўніка, калі коратка сказаць, – піпец без варыянтаў.

Пакуль жа будзем , шаноўныя чытачы, з слязьмі шчасця на вачах чакаць з 1 жніўня чарговага падвышэння заробкаў і пенсій, потым нам абяцаюць даць яшчэ большую колькасць запаветных паперак з 1 кастрычніка. Ну а пасля нас чакае вельмі "вясёлы" Новы год…

Хацеў ужо скончыць свае гэтыя нататкі, але чамусьці захацелась глянуць размешчаны на інтэрнэт-сайце міністэрства працы і сацыяльнай абароны спісак вакансій працоўных месцаў па Бялыніцкаму раёну. Падазраю, што там не ведаюць пра справаздачы мудрых бялыніцкіх статыстыкаў аб нашых сярэдніх заробках ў тры мільёны рублёў. Бо інакш бы яны не прапаноўвалі 45 працоўных вакансій па Бялыніцкаму раёну, дзе толькі ў двух месцах заробкі абяцаюць за два мільёны: Паўднёва-Усходняя кампанія прапануе бухгалтару 2 500 000 рублёў і "Белаграпромбанку" патрабуецца начальнік аддзела з заробкам у 2 371 000 рублёў. Ва ўсіх іншых арганізацыях сваім новым працаўнікам будуць плаціць нашмат менш за два мільёны…

Хаця што я ўсё нешта гляджу, падлічваю. Бюджэтнікам і чыноўнікам сапраўды з 1 траўня заробкі падвысілі ад 25 да 40 працэнтаў, пасля яшчэ паабяцалі дабавіць. Вынік на выбарах менавіта гэтыя "лепшыя людзі" забяспечваюць, ну а работнікі вытворчасці няхай добра працуюць, тады і будзе ім заробак, так наш самы галоўны сказаў.

Калі ж казаць сур'ёзна, паважаныя чытачы, то павышэнне сярэдняга заробку, можа, і адбудзецца, але хутчэй за ўсё – толькі на паперы, дзякуючы "чыстым аперацыям з лічбамі". Бо ўжо зараз над намі навісла пагроза паўтарэння абвалу 2011 года. Думаю, што і чыноўнікі ад улады гэта выдатна разумеюць. І калі штучнае падвышэнне заробкаў працягнецца, наперадзе нас чакае той самы "піпец без варыянтаў".

***Сяргей Семяновіч***



# СПК «КОЛХОЗ «РОДИНА» ЗА НАРУШЕНИЕ ПРИРОДООХРАННОГО ЗАКОНОДАТЕЛЬСТВА НАКАЗАЛИ ТОЛЬКО СПУСТЯ ГОД

Люди, уничтожающие природное богатство, остаются безнаказанными, но порой, к сожалению, приходится потратить много времени, чтобы призвать их к порядку.

В этот день рыба в реке Вабич близ деревень Сурды и Нежков Белыничского района всплыла на протяжении 7,5 километра.

Не потребовалось много времени, чтобы определить причину такого массового замора рыбы. На животноводческой ферме деревни Согласие СПК “Колхоз “Родина” переполненным оказался навозонакопитель. Навозная жижа попала в близлежащую канаву, из нее — в мелиоративный канал, а оттуда — в речку. А вот от момента нарушения природоохранного законодательства и до взыскания материального ущерба, нанесенного ихтиофауне, — а он исчисляется 50 миллионами 193 тысячами 500 рублями, — прошел почти год. И это понятно: никто не торопится платить за собственную безалаберность и нераспорядительность. Но чтобы доказать факт нарушения природоохранного законодательства, пришлось проводить неоднократные исследования состава воды в реке, привлекать даже НПЦ НАН Беларуси по биоресурсам.




Начальник животноводческого комплекса в деревне Новоселки Елена Мариуца отрицает, что знала о необходимости очистки навозонакопителя на ферме в Согласии. Поскольку скот там не содержался, то работу отложили до лучших времен.

Правды ради, следует заметить, что вклад в это дело в данном случае внесла и агрономическая служба СПК “Колхоз “Родина”, которому принадлежат угодья в пойме реки Вабич. Имея смутное представление о нормах, регламентирующих сельскохозяйственную деятельность в границах прибрежных полос водных объектов, в чем и признался заместитель председателя хозяйства по растениеводству Борис Сафонов, на площадях, прилегающих к реке, посеяли кукурузу и обработали посевы химическими препаратами, подкормили минеральными удобрениями. Естественно, часть их вместе с дождевыми водами тоже попала в Вабич. Ведь кукурузное поле находилось на расстоянии всего пяти метров от водной глади.

— Рассмотрев материалы, собранные Белыничской межрайонной инспекцией по охране животного и растительного мира, — говорит ее начальник Виталий Бизунов, — следствие в возбуждении уголовного дела отказало, мотивируя это тем, что у должностных лиц сельхозкооператива не усматривается неумышленной или неосторожной формы вины, поэтому состав преступления, предусмотренный ч. 2 ст. 272 УК Республики Беларусь, отсутствует. И вышло, что виновных нет. Но хозяйственный суд Могилевской области решил иначе.

Рассмотрев иск инспекции к СПК “Колхоз “Родина”, он удовлетворил его в полном объеме. Хозяйству предстоит выплатить в доход государства всю сумму ущерба, нанесенного природе, а также более 2,5 млн рублей госпошлины.

— Казалось бы, этим можно и удовлетвориться, — размышляет далее Виталий Бизунов. — Но продолжает тревожить вот что. Ведь “Родина” — хозяйство не из худших. Да, в какой-то мере ущерб возмещен. Но для восстановления рыбных запасов в Вабиче потребуется не один год.

Медики утверждают, что любую болезнь легче предупредить, чем потом лечить. Вот бы каждый хозяйственник подходил так к профилактике нарушений законодательства о природе.

***“Народная газета”***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# БЕЛОРУССКИЙ ПАРЛАМЕНТ – ПАНСИОНАТ ДЛЯ ЧИНОВНИКОВ?

Депутаты белорусского парламента фактически не имеют политического веса, считают независимые эксперты. По их мнению, для многих парламентариев один из мотивов попадания в высший законодательный орган – надбавка к пенсии.

23 сентября в Беларуси пройдут выборы в Палату представителей Национального собрания – нижнюю палату парламента. Однако, на взгляд экспертов, статус депутата в Беларуси теряет свою значимость. Это связано, по их мнению, с тем, что парламентарии лишены реальных полномочий.

## Белорусские парламентарии - кто они?

Однообразие, незаметность и, как правило, единогласная поддержка курса, проводимого президентом – таковы, по оценкам аналитиков, качества, заметно отличающие депутатов белорусской Палаты представителей от их коллег из российской Госдумы и украинской Верховной рады. Депутат Палаты представителей второго созыва, генерал-майор в отставке Валерий Фролов считает, что названные отличия обусловлены в первую очередь разными политическими системами в трех странах.

Но кто и зачем идет в депутаты в Беларуси? По словам директора Института политических исследований “Политическая сфера” Андрея Казакевича, в последних созывах значительно вырос средний возраст парламентариев. В основном в Палату представителей, объясняет политолог, попадают чиновники, директора госпредприятий и учреждений. При этом уровень должностей, на которые они уходят по окончании законотворческой деятельности, снижается.

“Если ранее бывшие депутаты становились министрами, дипломатами и занимали другие высокие посты, то для экс-парламентариев прошлого созыва самая значимая должность - на уровне замминистра”, - констатирует Казакевич.

## Выгодное безделье

Валерий Фролов заверил DW, что в Беларуси депутатский мандат ни материальной выгоды, ни серьезного карьерного роста не приносит. Есть, правда, исключения, которые делаются для тех, кто в стенах парламента правильно себя ведет.

Все меньше белорусов считает парламент органом народного представительства, но голосовать на парламентских выборах, намеченных на сентябрь, готово большинство избирателей, утверждают социологи из НИСЭПИ.

“На какой-то пряник можно рассчитывать, если ты ничего не делал, обеспечивая этим стабильность. В Палате представителей, если есть возможность ничего не делать, лучше ничего и не делать. Тогда можно надеяться на какие-то небольшие должности”, - вспоминает генерал Фролов.

Если же кто-то попытается нарушить такой ход вещей, тогда, по выражению Фролова, такого депутата начинают “вызывать на ковер” для проведения профилактических бесед и руководство парламента, и руководство президентской администрации. Так было с самим Валерием Фроловым. Однако среди ныне заседающих в Палате представителей парламентариев возмутителей спокойствия не нашлось.

## Заработать хорошую пенсию

Как сообщил DW директор Центра европейской трансформации Андрей Егоров, более двух третей действующего состава белорусского парламента - лица старше 51 года. Фактически высший законодательный орган, отмечает Егоров, выполняет функции пансионата для чиновников. Слагая депутатские полномочия, многие из них сразу уходят на пенсию.

*(Окончание на стр. 5)*



## БЕЛОРУССКИЙ ПАРЛАМЕНТ – ПАНСИОНАТ ДЛЯ ЧИНОВНИКОВ?

*(Оконч. Начало на стр. 4)*

При этом членство в Палате представителей дает существенную прибавку к пенсии. Как рассказал Валерий Фролов, за свое депутатство он получает пособие в размере 4,5 миллиона рублей (450 евро в эквиваленте). В стране, где официально провозглашенный президентом критерий материального благополучия соизмеряется со средней зарплатой в 500 долларов, такая прибавка довольно существенна.

### Ограниченное влияние

Но повышенная депутатская пенсия привлекает далеко не всех. Например, белорусские предприниматели - в отличие от их российских и украинских коллег - не особенно стремятся попасть в стены парламента. Опубликованные в июле данные опроса социологической службы "Зеркало-инфо" свидетельствуют: лишь 7 процентов белорусских бизнесменов готовы побороться за депутатские мандаты, 67 процентов этого не хотят.

Андрей Казакевич поясняет нежелание бизнеса идти в парламент несоизмеримостью рисков. "Влияние на что-либо ограничено, а получить конфликт с исполнительными структурами можно очень легко", - указывает Казакевич. По его словам, бизнесменам удобнее иметь знакомых депутатов для лоббирования каких-то локальных интересов, нежели самим носить депутатский значок. Тем более что политическая роль белорусских парламентариев совершенно незаметна.

"Вся полнота власти в Беларуси сосредоточена на уровне президента, его окружения и исполнительной вертикали", - напоминает политолог. Власть депутатов во многом является номинальной. А к номинальной власти, делает вывод Андрей Казакевич, и отношение соответствующее.

***"DW"***

## БЕЛЫНИЧСКИЙ РАЙОН – САМЫЙ ГРИБНОЙ

Самым грибным в этом году стал Белыничский район, а черничным — Ивановский.

На данный момент Белкоопсоюз заготовил 9900 тонн грибов, что в 11 раз больше, чем за аналогичный период прошлого года.

— Больше всего грибников оказалось в Белыничском районе. Здесь население сдало уже 1300 тонн грибов, — рассказывает Елена Мохор, пресс-секретарь Белкоопсоюза.

В зависимости от района цена на грибы изменяется от 20 до 25 тысяч рублей.

Черники же сдано 3,6 тысячи тонн, что на 119 процентов больше, чем за такой же период 2011 года. Ее цена 19—23 тысячи рублей. Кстати, самым черничным в этом году стал Ивановский район, где заготовили уже 180 тонн ягод.

Не менее активно население сдает черную и красную смородину, которой заготовлено 187 и 393 тонны соответственно. Средняя цена этих ягод — 5—7 тысяч рублей.

## ЦІ ПАСМЯЕЦЦА НАРОД НА ГЭТЫХ ВЫБАРАХ

Панядзелак – дзень вясёлы. 16 ліпеня Аляксандр Лукашэнка паабяцаў празрыстыя выбары ў палату прадстаўнікоў, а аўтар знакамітага перформансу "Мусорок" заявіў пра намер патрапіць у дэпутаты.

### Місія ад СНД адназначна справіцца!

Заўважана, што назіральнікі ад Садружнасці незалежных дзяржаў пад кіраўніцтвам выканаўчага сакратара СНД Сяргея Лебядзева надзвычай пазітыўна ўспрымаюць беларускія выбары. Таму нядзіва, што гэтага чыноўніка Аляксандр Лукашэнка прымаў з прыемнасцю.

— Мы здесь ничего не прячем, вы это знаете. Выборы мы хотим провести открыто, транспарентно, достойно. А главное, чтобы выборы были легитимны, а это зависит от того, насколько свободным будет волеизъявление, — захоўваючы сур'ёзны твар, казаў кіраўнік дзяржавы. — Мы всегда с удовольствием приглашаем миссию СНГ и хотим, чтобы вы ее возглавили, как обычно, потому что доверие к вам очень высокое в Беларуси.

— Наш предыдущий опыт наблюдения показывает, что, как правило, мы получаем всемерную поддержку от всех структур власти в Беларуси, от Центризбиркома, и поэтому есть основания полагать, что наша миссия справится со своими обязанностями, — пажартаваў у адказ Лебядзеў.

Сапраўды, наконт празрыстасці беларускіх выбараў складаюць легенды. Нават у Зімбабвэ, якім ужо больш за 30 гадоў кіруе дыктатар Роберт Мугабэ, апазіцыя шырока прадстаўленая ў парламенце. А ў нас мінулым разам ва усіх 110 акругах у першым жа туры "перамаглі" прыхільнікі Лукашэнкі. Трыумф "транспарэнтнасці"!

І пакуль няма падстаў лічыць, што сёлета будзе інакш. У выбарчыя камісіі патрапілі адзінканыя прадстаўнікі апазіцыйных партый. Таму лічыць галасы і падводзіць вынікі як заўжды будуць праверания людзі, якія забяспечылі ўжо не адну "элегантную перамогу".

Выбары ў палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу нагадваюць рытуал, які беларусам наканавана выконваць раз на чатыры гады. На ўчастках для галасавання не вырашаецца анічога, але ўлады патрабуюць туды прыйсці дзеля таго, каб усё вонкава выглядала "достойно".

*(Заканчэнне на стар. 6)*



ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## ВАЛЕРИЙ ИВАНОВ ПРИЕЗЖАЛ В КРУГЛОЕ ПОПЛАВАТЬ?

Недавно в г.п.Круглое в составе торгово-гостиничного комплекса «Изумруд» открылся бассейн с гейзером, водопадом и приливной волной. Стоимость билета для взрослых составляет 14 тысяч рублей, для детей – 10 тысяч. Для работников ГУК ДСП «Круглянская ПМК №266», в ведомстве которой находится построенный комплекс, предусмотрены скидки.

Бассейн соединен с сауной, джакузи, бильярдным залом.

– На прошлой неделе наш водный «оазис» оценила по достоинству делегация ОАО «Белорусская калийная компания» во главе с депутатом Палаты представителей Национального собрания РБ Валерием Ивановым, – говорит юрисконсульт ПМК №266 Николай Курносов. – Одновременно с бассейном введена 2-я очередь гостиничных номеров. Теперь их имеется 12, в том числе 3 пентхауса. В эти выходные пентхаусы были полностью заняты с одновременным заказом комплекса услуг центра «Здоровье» – СПА-капсулы, массажа, единственной в Могилевской области криосауны, солярия, лимфодренажа.

С балконов пентхаусов открывается чудесный вид на внутренний дворик с фонтаном, панорамой парка детских аттракционов «Изумрудный городок». (Кстати, доход от аттракционов за один месяц составил 28 млн. рублей). Сегодня в нем монтируется первый в Беларуси аттракцион «Пилот» с четырьмя самолетами.

***Людмила ГРИШАНОВА, “Могилёвские ведомости”***

## ЧИНОВНИКИ БЕРУТ ВЗЯТКИ…

Уголовное дело в отношении первого заместителя председателя Мингорисполкома Игоря Васильева будет расследовать Следственный комитет Беларуси, сообщили агентству “Интерфакс-Запад” в отделе информации и связи с общественностью СК.

Там проинформировали, что следствием И.Васильеву предъявлено обвинение по ч.3 ст.430 (получение взятки лицом, занимающим ответственное положение, в особо крупном размере) УК Беларуси, проводится расследование.

“Игорь Васильев был задержан 6 июля сотрудниками КГБ при получении взятки в особо крупном размере за благоприятное решение вопросов, входящих в его компетенцию”, - рассказали в СК. После задержания он был заключен под стражу.

## ЦІ ПАСМЯЕЦЦА НАРОД НА ГЭТЫХ ВЫБАРАХ

*(Заканч. Пачатак на стар. 5)*

### ...Цісні на тры кнопкі – і ўсё

Таму найбольш адэкватнай выглядае рэакцыя аўтара знакамітага перформансу “Мусорок” Івана Амельчанкі. Ён абвесціў пра намер пазмагацца за мандат і выклаў перадвыбарную праграму.

– Главная моя задача – получить работу депутата, – отметил Иван Омельченко. – Сейчас я безработный, а в парламенте зарплаты выше среднего, квартира, машина, все дела. Ну и делать ничего не надо – жми на три кнопки и все.

Нават у Зімбабвэ, якім ужо больш за 30 гадоў кіруе дыктатар Роберт Мугабэ, апазіцыя шырока прадстаўленая ў парламенце.

Амельчанка мае шэраг арыгінальных ідэяў, як вырашыць праблемы нашай краіны. У прыватнасці, са знешняй пазыкай ён прапанаваў разабрацца наступным чынам.

– Необходимо провести референдум по переименованию Беларуси, например, в Беларусь-2 или Супер-Беларусь. Таким образом, все прежние договора станут недействительными и автоматически аннулируются.




Відавочна здзеклівае стаўленне Амельчанкі да выбараў рэзка кантрастуе з шалёна сур’ёзнымі спрэчкамі апазіцыйных палітыкаў наконт таго, байкатаваць гэтую кампанію ці браць у ёй удзел? Зразумела, што і першы, і другі варыянт бесперспектыўныя. Магчыма, роля блазна ў дадзеным выпадку найбольш удзячная. Прынамсі, калі народ пасмяецца з выбараў, гэта ўжо будзе перамогай дэмакратаў.

17ліпеня Івана Амельчанку арыштавалі на 12 сутак...

***Валянцін СЫЧ, “Тут і цяпер”***

# ЦІ САП'ЕЦЦА "ПРЭЗІДЭНЦКІ" РАЁН?

На малой радзіме Аляксандра Лукашэнкі расце ўзровень падлеткавай злачыннасці. За шэсць месяцаў 2012 года ў Шклоўскім раёне з удзелам непаўналетніх было здзейснена 8 злачынстваў, між тым як за аналагічны перыяд 2011 года — 3.




## Тэндэнцыя неаптымістычная

У здзяйсненні злачынстваў у гэтым годзе прынялі ўдзел 9 падлеткаў, а ў 2005 годзе, напрыклад, усяго 5. Іншая адметнасць — накіраванасць злачынстваў: больш як 90% з іх складаюць крадзяжы дзяржаўнай і асабістай маёмасці грамадзян.

На думку кіраўніцтва інспекцыі па справах непаўналетніх Шклоўскага РАУС, асноўнай прычынай падлеткавай злачыннасці з'яўляецца цяжкае матэрыяльнае і, адпаведна, няпростае маральнае становішча ў сем'ях. Штогод у раёне выяўляецца як мінімум 30 нядобранадзейных сем'яў. Ужо сёлета супрацоўнікі міліцыі паставілі на ўлік 12 сем'яў, у якіх бацькі злоўжываюць спіртнымі напоямі. На васьмёра бацькоў рыхтуюцца запыты на пазбаўленне іх бацькоўскіх правоў.

Актуальная ў раёне і праблема злоўжывання спіртнымі напоямі самімі падлеткамі. За мінулы перыяд 2012 года за парушэнне антыалкагольнага заканадаўства да адказнасці тут было прыцягнута 15 падлеткаў. На ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх раённага РАУС знаходзіцца больш як 60 падлеткаў, з іх менавіта за злоўжыванне алкаголем — 33 чалавекі. Не так і многа, калі параўнаць з "дарослай" статыстыкай: там за той жа час пастаўлена на ўлік ажно 362 грамадзяніны, але ж для грамадскай трывогі хапіла б і аднаго падлетка. На жаль, менавіта гэтай трывогі ў раёне названыя факты не выклікаюць...

## Не стае комплекснага падыходу

Усе заняты "сваёй справай": адны дзяцей нараджаюць, іншыя вучаць у школе, трэццiя назіраюць за дзецьмі па-за школай, чацвёртыя прадаюць падлеткам алкаголь, пятыя ловяць падпітых падлеткаў на вуліцы і дыскатэках, шостыя вядуць статыстыку, сёмыя... ну, і г.д. Насамрэч ніхто падлеткамі не займаецца, бо тут патрэбен комплексны падыход, агульныя скаардынаваныя намаганні.

Як ілюстрацыю да такой высновы можна прывесці той факт, што за паўгоддзе да службовай адказнасці за продаж алкаголю падлеткам прыцягнуты толькі адзін прадавец. Тут так: альбо ён адзін і прадаваў на працягу ўсіх гэтых месяцаў спіртныя напоі падлеткам, альбо ніякага нагляду і кантролю за гэтым працэсам няма (у першае, згадзіцеся, паверыць значна цяжэй).

І яшчэ адметнасць, на якую звяртаюць увагу грамадскія актывісты ў раёне разам з меркаваным кандыдатам у дэпутаты Нацыянальнага сходу Рыгорам Кастусёвым. Не дапамагаюць пакуль што тыя строгія меры дэалкагалізацыі раёна, пра якія так шырока было абвешчана месяц назад. Яно і вядома: аднымі забараняльнымі мерамі гэтую праблему не вырашыць. Нікому — ні ЗША ў далёкія 20-я гады мінулага стагоддзя, ні СССР у адносна далёкія 80-я — забаронамі і пакараннямі згаданую праблему вырашыць не ўдалося.

## Прафілакторый без двукосся

Сёлета ў Шклоўскім раёне на ўлік да ўрача-нарколага пастаўлена 32 мужчыны і 29 жанчын, а 14 чалавек увогуле накіраваны на прымусовае лячэнне ў лячэбна-працоўны прафілакторый (афіцыйныя крыніцы не бяруць прафілакторый у двукоссе, і мы не будзем).

Няўжо нічога больш эфектыўнага не можа прыдумаць наша дзяржава з усім яе моцным ідэалагічным і адміністратыўным апаратам, не гаворачы ўжо пра наяўнасць шырокага кола настаўніцтва і медыцынскіх работнікаў?!. Абралі б "прэзідэнцкі" раён (так называюць Шклоўскі раён у рэгіёне) за эксперыментальную пляцоўку — мо і атрымалася б што добрае! А пакуль што гэты раён, пры ўсёй сваёй мемарыяльнасці і штогадовым размашыстым "скліканні сяброў", вызначаецца не перамогамі ў сацыяльных паказчыках, а пагаршэннем сітуацыі ў тым, што называецца культурай, дысцыплінай, прыстойным укладам жыцця. Вось ужо і маладое пакаленне далучаецца да п'янства і злачыннасці.

***Іван БАРЫСАЎ, Віктар ВОЙТ***



ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ПОПЫТ НА ЗАМЕЖНУЮ ВАЛЮТУ — ЧАСОВЫ?



Беларусы зноўку актыўна закупаюць замежную валюту. Гэта паказваюць дадзеныя статыстыкі Нацбанка Беларусі за чэрвень. Ці выкліканая гэтая тэндэнцыя чаканнямі чарговага абясцэньвання нацыянальнай валюты?

У параўнанні з траўнем насельніцтва набыла на 17,4 млн долараў болей, чым прадала. Такіх паказчыкаў не было з сакавіка мінулага году. Шэраг эканамістаў лічаць гэта заканамерным для летняга сезону.

— Людзі едуць у адпачынак. Таму аб пагаршэнні статыстчкі пакупкі замежнай валюты можна будзе меркаваць па паказчыках жніўня, калі час адпачынкаў падыйдзе да канца , — кажа фінансіст Антон Болтачка.

За першае паўгоддзе рост грашовай масы ўжо дасягнуў запланаванага на год — 20 %. Праўда, ён кампенсуецца ростам коштаў на спажывецкія тавары. Таму, на думку былога старшыні Нацбанка Станіслава Багданкевіча, у бліжэйшыя месяцы курс замежнай валюты не будзе рэзка змяняцца:

— Інфляцыя часткова стрымлівае рост коштаў на валютным рынку. Улічваючы, што ў нас станоўчае сальда гандлёвага балансу, у бліжэйшыя месяцы не варта чакаць праблем з валютным рынкам.

Звярнуць увагу ў першую чаргу на павелічэнне наяўных грошаў у абароце рэкамендуе і эканаміст Сяргей Чалы:

— Пасля падзення даходаў насельніцтва ў выніку крызісу ўлады падвышалі заробкі да пэўнай мяжы. Аднак калі працягваць гэтую палітыку падвышэння заробкаў далей, відавочна, што мы атрымаем неабгрунтаванае падвышэнне даходаў, што небяспечна.

Эканаміст адзначае, што перавод рублёў у наяўную і безнаяўную замежную валюту, а таксама рост спажывання ў выніку росту даходу можа паўплываць на валютны рынак і выклікаць нестабільнасць нацыянальнай валюты.

У той жа час мы знаходзімся каля мяжы , калі насельніцтву ўжо невыгодна захоўваць грошы на дэпазітах у беларускіх рублях.

— Напачатку года захоўваць грошы ў беларускіх рублях у банку было вельмі выгадна. Цяпер жа, калі стаўка рэфінансавання зніжаецца, трымаць назапашанае ў беларускіх рублях — эканамічна недальнабачныя паводзіны , — адзначае Леанід Заіка і рэкамендуе захоўваць грошы ў амерыканскіх далярах ці кітайскіх юанях.

Такім чынам, вызначальным стане апошні месяц лета, тады можна будзе меркаваць пра ўстойлівасць і абгрунтаванасць попыту на замежную валюту.

# МАГАЗИНЫ ОАО “НОВАЯ ДРУТЬ” СНОВА “ОТЛИЧИЛИСЬ”

Комитет госконтроля продолжает публиковать список объектов торговли, в которых выявлена реализация продуктов с истекшими сроками годности (хранения).

В мае текущего года в список торговых точек, реализующих недоброкачественные товары, попали 45 объектов 14 районов области и городов Могилева и Бобруйска, из них 23 - повторно.

К сожалению, есть такие объекты торговли и в нашем Белыничском районе. Дважды подобные нарушения были пресечены в магазинах ОАО “Новая Друть”: расположеном в агрогородке Техтин магазине “Гостинец” и в находящемся в агрогородке Большая Мощаница магазине “Крама”.

Комитет госконтроля предложил местным органам власти взять указанные объекты под особый контроль, предпринять ряд мер, направленных на обеспечение соблюдения ими законодательства о торговле.

Что же, посмотрим, насколько местные органы власти смогут решить проблему. Ведь данные объекты торговли ОАО “Новая Друть” попадают в “чёрный список” КГК за реализацию продуктов с истёкшим сроком годности далеко не в первый раз…

***Ирина Беганкина***



# ДТП в Белыничском районе

В Белыничском районе 11 июля около 10 часов вечера 33-летний житель г.п. Белыничи, управляя автомашиной «Форд Фиеста» по автодороге Шклов – Белыничи, вблизи д. Крайний совершил наезд на двигавшегося в попутном направлении велосипедиста, после чего автомашина съехала в кювет. В результате ДТП велосипедист от полученных телесных повреждений скончался на месте, ехавшему в качестве пассажира в автомашине 34-летнему жителю г.п. Белыничи причинены травмы. После совершения ДТП водитель автомашины с места ДТП скрылся, но был установлен и задержан.

## Анекдот дня

– Вы спрашиваете, как называется книга, которая изменила мою жизнь?
Уголовный кодекс!

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Адрас рэдакцыі: Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 18.07. 2012 г. у 19-00.